У НУМАРЫ




# Ніва

 БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК 

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 28 (802) ГОД XVI БЕЛАСТОК 11 ЛІПЕНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.





## МАКСІМ ТАНК

* ✲ *

Дрэвы паміраюць,  
Калі перастаюць пазнаваць  
Змены года  
І не адгукаюцца рэхам;

Вада — калі забывае,  
Куды ёй плыць,  
І нікому не спатольвае смагі;

Зямля — калі перастае  
Радзіць хлеб  
І быць калыскай песняў,

Чалавек — калі страчвае здольнасць  
Здзіўляцца і захапляцца  
Жыццём.

* ✲ *

*На пытанне —*  
*Чаму мае рукі заўсёды цягнуцца*  
*Да касы, да плуга, да сякеры,*  
*Я адказваю:*  
*— Усё яшчэ веру*  
*У старыя прымхі,*  
*Што ў канцы жыцця ўзважваюцца*  
*Дрэнныя і добрыя справы*  
*І прылады, з якімі хто дружыў.*  
*І незайздросны лёс тых,*  
*Хто зможа на шалі палажыць*  
*Толькі лыжку*  
*Ці толькі свой язык.*

* ✲ *

У маіх песнях,  
Гулкіх, як стадыён  
Падчас футбольнага матчу,  
І ціхіх, як пульс,  
Які закончыў свой лік,  
Разрэкламаваных,  
Як зубная паста,  
І забытых,  
Як імперыя інкаў,  
Бліскучых,  
Як юбілейныя прамовы,  
І іржавых, як цвікі  
У старых варотах, —  
Заўсёды знойдзеш  
Хоць невялічкую частку  
Чалавечых надзей.





Сяброўства беластоцкага мастацкага калектыву „Курпе зелёнэ” з гродзенскім ансамблем песні і танца „Нёман” пачалося даўно. Пастаяннымі сталі таксама сяброўскія візіты беластоцкай і гродзенскай самадзейнасці. У чэрвені, напрыклад, „Курпе зелёнэ” наведалі Гродна, у гэтым жа месяцы візіт беластаччанам нанёс „Нёман”. На здымку: члены абодвух калектываў на беластоцкіх Плянтах. Фота: Г. Рагазінскі. На стар. 3 фотарэпартаж з канцэрту гродзенцаў у Беластоку.

*Гродзенцы на беластоцкай сцэне. Фота Цаф — Р. Сянько*




■ 26-га чэрвеня старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Міхась Хмялеўскі прыняў удзел у пленуме Украінскага грумадска-культурнага таварыства, прысвечанага 15-ай гадавіне існавання гэтай арганізацыі.

■ 27-га чэрвеня з нагоды 15-ай гадавіны Беларускага таварыства бельскі аддзел БГКТ арганізаваў у Орлі фэстын. Адкрыў урачыстасць сакратар грамадскага камітэта ПАРП Леанід Мураўскі. З дакладам выступіў старшыня бельскага аддзела БГКТ Мікалай Гайдук. У прэзідыуме фэстына, між іншым, былі: галоўны рэдактар „Нівы” Георгі Валкавыцкі, падінспектар асветы да спраў культуры павятовай рады нарадовай Антаніна Куна і старшыня мясцовай ГРН Мікалай Лемеш. Мастацкая частка, а таксама іншыя мерапрыемствы былі цікавыя. Аб гэтым фэстыне будзе змешчаны ў „Ніве” фотарэпартаж.

■ Таксама ў Семяноўцы 27-га чэрвеня адбыўся народны фэстын, які быў арганізаваны гайнаўскім аддзелам БГКТ, мясцовымі арганізацыямі і адміністрацыйнымі ўладамі. Адкрыў фэстын сакратар ГРН у Семяноўцы, член Галоўнага праўлення БГКТ Юрка Кіслы. Даклад аб 15-годдзі БГКТ прачытаў старшыня аддзела Аляксандр Іванюк. Пасля афіцыйнай часткі выступілі харавыя калектывы і адбыліся спартыўныя спаборніцтвы і паказы добраахвотных пажарных каманд. Галоўнае праўленне рэпрэзентаваў сакратар ГП Янка Зенюк. Падрабязней аб фэстыне раскажам у асобным рэпартажы.

■ Зараз на Беласточчыне адбываецца фальклорны студэнцкі рэйд Варшаўскага універсітэта. 27-га чэрвеня студэнты гэтыя спаткаліся ў Гарадку з мясцовым харавым калектывам, які паказаў студэнтам свой рэпертуар.

■ 26 і 27 чэрвеня эстрада ГП БГКТ „Лявоніха” дала тры канцэрты ва ўкраінскіх асяроддзях Галдапскага павета.

■ Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы ўвесь час папаўняецца каштоўнымі экспанатамі, якія перадаюць бясплатна жыхары Беласточчыны. Нядаўна вельмі цікавыя экспанаты перaказала Вольга Кляшчэўская з Орлі. Яе муж (ужо не жыве) быў любіцелем разьбы па дрэву, а таксама рабіў розныя іншыя цікавыя рэчы. ГП БГКТ складае шчырую падзяку Вользе Кляшчэўскай.

■ Сядзіба праўлення сямяціцкага аддзела знаходзіцца ў Мілейчыцах. У паўднёва-ўсходняй частцы павета знаходзяцца ў асноўным гурткі Беларускага таварыства, якіх налічваецца там 19. Члены гурткоў пражываюць у 26 вёсках. Ніжэй падаем іх актуальны стан.

Гурток у Мілейчыцах налічвае 147 членаў, у Сямяцічах — 36, у Вычулках — 19, у Нурцы станцыі — 18, у Нурцы вёсцы — 12, у Зубачах — 14, у Машчонай Панскай — 13, у Вульцы Нурэцкай — 25, у Тымянцы — 26, у Мядзвежыках — 12, у Вярполі — 14, у Клюковічах — 34, у Літвінавічах — 26, у Мікулічах — 19, у Рагачах — 32, у Вілінаве — 57, у Стаўбцах — 12, у Сычах — 5 і Навасёлках — 18. Апрача таго, члены БГКТ ёсць у вёсках Грабарка, Шаршэні і Баратынец Рускі. Праўленне аддзела пастанавіла ў 1971 годзе арганізаваць 7 новых гурткоў у раёне Мельніка, Баратынца і Слох. (мс)

# ЧАЛАВЕК ПАМІРАЕ Ў АДЗІНОЦТВЕ

Ліст быў трывожны, прасякнуты пякучым болем і яўным жалем. Паўлаў сын, Язэп Барвеюк з вёскі Рагаўка ў Сямяціцкім павеце пісаў, што ён моцна хворы, што зімой гэтага года меў цяжкую аперацыю страўніка, а калі вярнуўся з бальніцы, па вёсцы і па наваколлі разняслася пагалоска, што ён „мае рака”.

*„...У вёсцы, на жаль, — пісаў нам Язэп Барвеюк, — людзі баяцца гэтага горш, як сухот і кожнай іншай хваробы! Адносяцца да мяне, як да нейкага вырадка. Няма да каго зайсці, ані з кім пагаварыць. Толькі адна сям'я, што жыве па-суседску, яшчэ мяне прызнае. Хаджу да іх на ўколы і часам штосьці з'ем. Амаль усе іншыя зачыняюць перада мною дзверы або сваімі паводзінамі даюць зразумець, каб я хутчэй пайшоў ад іх!”*

Дык імчуся ў Рагаўку. Па дарозе спыняюся ў Сямяцічах, каб параіцца з лекарамі.

— Барвеюк з Рагаўкі? — на хвіліну задумваецца дырэктар павятовай бальніцы і змучанымі вачыма глядзіць у столь. — Выбачайце, я сёння амаль што не спаў. Ноччу прывезлі да нас аднаго маладога чалавека, якога родны бацька хацеў зарубаць сякерай. Ледзь адратавалі мы яго... Ага, я вам пра гэта, а вы пра Барвеюка... Што, дапамагаць хочаце? Ужо яму адна газета дапамагла! — у яго голасе аж зазвінела іронія. — Рэдакцыя „Грамады” пераклала яму на польскую мову наш дыягноз.

— Дык ён ужо ведае.

— Так. І можа лепш для яго, што ведае, бо справа сапраўды безнадзейная. У такіх выпадках медыцына пакуль што паддаецца...

У вёсцы спярша заязджаю да солтыса Вацлава Матосюка, каб распытаць, ці сапраўды жыхары Рагаўкі адносяцца да Язэпа Барвеюка, „як да вырадка”? Бо не хацелася мне верыць, што яны „баяцца рака горш, як сухот”, што не ведаюць, што рак не з'яўляецца заразнай хваробай і не пераносіцца ён з чалавека на чалавека.

— Няпраўда гэта! — пярэчыць солтысава жонка. — Барвеюк — вельмі сварлівы чалавек. Цяжка з ім вытрымаць. Пастаянна паўтарае, што людзі хочуць яго смерці, каб забраць яму маёмасць. Нейкі недаступны, не дапускае да сябе. Яшчэ калі быў здаровы, ён з нікім не сябраваў. І рабіць яму не хацелася. Маці ва ўсім яго выручала, хаця была хворая. А ён толькі ў кніжках сядзеў. Восенню мінулага года сабраліся людзі, каб выкапаць яму бульбу, бо ўжо была часткова замерзла. Дык ён спярша не хацеў іх пусціць на поле.

Працяг на стар. 4

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### АБ ГІБЕЛІ ЭКІПАЖА «САЮЗА — II»

Пасля выканання праграмы палёту экіпаж навуковай станцыі «Салют» атрымаў указанне зрабіць пасадку. Касманаўты перанеслі матэрыялы навуковых даследаванняў і бортжурналы ў транспартны касмічны карабель «Саюз-II» для вяртання на Зямлю. Пасля правядзення аперацыі расстыкоўкі, якая прайшла без заўваг, 30 чэрвеня была ўключана тармазная рухальная ўстаноўка. Пасля заканчэння работы тармазнага рухавіка сувязь з экіпажам спынілася.

У адпаведнасці з праграмай пасля аэрадынамічнага тармажэння ў атмасферы была ўведзена ў дзеянне парашутная сістэма і непасрэдна перад Зямлёй — рухавікі мяккай пасадкі. Палёт спускаемага апарата завяршыўся плаўным прызямленнем яго ў зададзеным раёне. Група пошуку, якая прызямлілася адначасова з караблём на верталёце, пасля ўскрыцця люка выявіла экіпаж карабля «Саюз-II» у саставе лётчыкаў - касманаўтаў падпалкоўніка Георгія Дабравольскага, бортінжынера Уладзіслава Волкава і інжынера — выпрабавальніка Віктара Пацаева на сваіх рабочых месцах без прыкмет жыцця. Прычыны гібелі высвятляюцца.

Свет схіляе галаву перад мужнымі савецкімі касманаўтамі.

Выступаючы з прамоваю на жалобным мітынгу, сакратар ЦК КПСС А. Кірыленка наступнымі словамі акрэсліў неўміручы подзвіг герояў: «Яны былі першымі, хто выпрабоўваў новы касмічны комплекс — арбітальную станцыю «Салют» і транспартны карабель «Саюз-II». На астраўку Радзімы, які ляціць з фантастычнай скорасцю ў прасторах Сусвету, яны былі поўныя бадзёрасці, упэўненасці ў тым, што заданне партыі і народа будзе выканана. І яны выканалі гэта заданне, паспяхова ажыццявілі складаную і разнастайную праграму навуковых даследванняў і тэхнічных эксперыментаў. Вынікі іх назіранняў неацанімыя для навукі, для будучыні касманаўтыкі, для чалавецтва».

### ВЕТА НІКСАНА

Прэзідэнт Ніксан наклаў вета на адобраны кангрэсам законапраект аб асігнаванні 5,6 мільярда долараў на грамадскія работы ў краіне.

### ДАРАЖЭЙШЫЯ ГАЗЕТЫ

Ад I ліпеня г. г. у Італіі падаражалі ўсе газеты незалежна ад іх аб'ёму. Цяпер кожны нумар замест 80 ліраў каштуе 90. Гэта ўжо другое падаражанне газет за апошнія два гады.

### З СУПРАЦЬ 6-ці

Большасцю ў 6 галасоў супраць 3 Вярхоўны суд ЗША адхіліў сцверджанне ўрада аб тым, што публікацыя дакументаў Пентагона наносіць шкоду нацыянальнай бяспецы ЗША. (ак)



## БССР

### СТУДЭНТЫ НА БУДОЎЛЯХ

Звыш 15 тысяч дзяўчат і юнакоў — беларускіх студэнтаў — выявілі жаданне працаваць у час канікул на будоўлях БССР і за яе межамі. Іх працоўны семестр пройдзе пад дэвізам: «Рашэнні XXIV з'езда — у жыццё». Такім чынам, студэнты знойдуцца на 350-ці аб'ектах Беларусі, дзе ажыццяўляецца новае будаўніцтва.

### СВЯТА ЮНАЦТВА

Згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР кожны год апошняя нядзеля чэрвеня цяпер адзначаецца як Дзень савецкай моладзі.

У гэтую нядзелю шмат цікавых мерапрыемстваў было наладжана ў БССР. У Барысаве спаборнічалі токары і фрэзероўшчыкі. Маладыя дабрушане сустрэліся са сваімі равеснікамі з Бранскай, Гомельскай і Чарнігаўскай вобласцей. На Кургане Дружбы, які знаходзіцца на мяжы Верхнедзвінскага і Браслаўскага раёнаў, адбылася сустрэча моладзі Беларусі, прыбалтыйскіх рэспублік і РСФСР. У Нароўлі сабраліся юнакі і дзяўчаты з Мазыра, Калінкавіцкага, Ельскага, Лельчыцкага і Нараўлянскага раёнаў. Адбыліся там выступленні спартыўных і самадзейных калектываў, паказ творчасці народных умельцаў, спаборніцтвы лепшых па прафесіях і г. д. Свята юнацтва адзначалася ў кожным горадзе і ў кожнай вёсцы БССР.

### ПАМЯЦІ М. ГАСТЭЛА

Легендарны лётчык, сын беларускага народа, камуніст Мікалай Гастэла 26 чэрвеня 1941 года ля вёскі Радашковічы ў Мінскай вобласці здзейсніў свой неўміручы подзвіг. Калі не хапіла яму боепрыпасаў, ён са сваёй машынай урэзаўся ў калону фашыстаў.

У 30-тую гадавіну яго подзвігу сабраліся ў Радашковічах працоўныя суседніх раёнаў, прадстаўнікі Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, дэлегацыя цеплахода «Капітан Гастэла», вайсковай часці, дзе служыў геройскі лётчык і яго таварышы, а таксама прадстаўнікі калгаса імя Гастэлы з Мінскага раёна, камсамольцы і піянеры — каб ушанаваць памяць адважнага земляка.

### У МУЗЕІ А. МІЦКЕВІЧА

У Доме-музеі Адама Міцкевіча ў Навагрудку адкрылася новая экспазіцыя. Паэтычны геній Польшчы паказаны ў ёй шырока не толькі як творац, але і як грамадзянін, змагар за свабоду народаў і дружбу між імі.

У экспазіцыю ўведзена старадаўняя мэбля, якая знаходзілася ў маёнтку Тугановічы, дзе бываў аўтар «Дзядаў». Фотапанарамы знаёмяць з азёрамі Кромань, Свіцязь, Налібоцкай пушчай, Шчорсамі. Гэтыя мясціны часта наведваў і апісваў Адам Міцкевіч. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### МАНІФЕСТАЦЫЯ ДРУЖБЫ

4 ліпеня г. г. з нагоды 21-ай гадавіны падпісання дагавору ў Згажэльцы паміж Польшчай і ГДР адбылася ў Зялёнай Гуры вялікая маніфестацыя дружбы. Прымала ў ёй удзел некалькі тысяч польскіх жыхароў і 200-асабовая дэлегацыя з ГДР. На ўрачыстасці з прамовамі выступілі намеснік прэм'ера Вінцэнты Краська і намеснік прэм'ера ГДР Аляксандр Абуш. Прамоўцы згодна адзначалі, што мяжа на Одры і Нысе з'яўляецца мяжой, якая нас не раздзяляе, а наадварот яднае. Гэта мяжа міру і дружбы. Згодна адзначалася таксама шырокае супрацоўніцтва паміж Польшчай і ГДР. На заканчэнне ўрачыстага мітынгу ў мастацкай частцы выступіў цэнтральны мастацкі калектыў Войска Польскага.

### ВІЗІТ П. ЯРАШЭВІЧА

Член Палітычнага Бюра ЦК ПАРП і старшыня Савета Міністраў П. Ярашэвіч наведаў Быдгоскае ваяводства, дзе правёў сустрэчу з сялянамі перадавога кааператыва ў Садках, а таксама з калектывам фабрыкі радыёпрыёмнікаў — транзістараў «Эльтра» ў Быдгашчы. На сустрэчы на фабрыцы П. Ярашэвіч уручыў калектыву пераходны сцяг старшыні Савета Міністраў і Галоўнага савета прафсаюзаў за першае месца ў спаборніцтве паміж прадпрыемствамі электратранзістарнай прамысловасці.

### ПЛЕНУМ

Нядаўна адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнай Рады Аб'яднання польскіх студэнтаў, на якім былі абмеркаваны справы паспяховасці ў навучанні студэнтаў. У пасяджэнні прымалі ўдзел С. Альшэўскі і В. Краська.

### ВЫКОНВАЮЦЬ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

У пачатку студзеня г. г. шахцёры і плавільшчыкі прымалі абавязацельствы дадатковай здабычы вугалю і прадукцыі сталі для падтрымкі праграмы новага кіраўніцтва партыі і ўрада. На працягу паўгадавога перыяду ад таго часу шахцёры і плавільшчыкі выканалі большую частку сваіх гадавых абавязацельстваў. Шахцёры абавязаліся дадаткова здабыць з-пад зямлі 900 тысяч тон вугалю. За 6 месяцаў даставілі яны дадаткова 600 тон вугалю. Некаторыя шахцёрскія калектывы прынялі новыя абавязацельствы.

У выкананні сваіх абавязацельстваў нічым не адстаюць ад шахцёраў плавільшчыкі. Шматлікія калектывы плавільшчыкаў выканалі зараз свае абавязацельствы ў 96 працэнтах. Далі яны краіне дадаткова тысячы тон сталі і пракатных вырабаў.

### ПАЖАР У ЧЭХАВІЦАХ

У мінулым тыдні загарэлася ад перуна нафта на нафтаперагонным заводзе ў Чэхавіцах — Дзедзіцах. Падчас тушэння пажара загінула 33 асобы. Сярод іх былі пажарнікі, салдаты і мясцовыя грамадзяне, 3 ліпеня г. г. 400 асоб — удзельнікаў тушэння пажара ўзнагароджана высокімі дзяржаўнымі адзначэннямі. (яц)



## ВАЯВОДСТВА

### ГРОДЗЕНСКІЯ ГОСЦІ

У мінулым тыдні на Беласточчыне прабывала дэлегацыя працаўнікоў партыйнага апарату з Гродна. У склад дэлегацыі ўваходзілі сакратар абласнога камітэта партыі ў Гродне Аляксандр Ульяновіч, I сакратар раённага камітэта партыі ў Бераставіцы Мікалай Рыбак, сакратар раённага камітэта ў Слоніме Зінаіда Калунова і II сакратар раённага камітэта ў Ашмянах Віктар Дзегцярэнка. Госці знаёміліся з працай Ваяводскага камітэта партыі і жыццём на Беласточчыне.

### ПЕРШЫЯ ВЫПУСКНІКІ

30 чэрвеня ў беластоцкім філіяле Варшаўскага універсітэта адбылася сустрэча першых выпускнікоў гуманітарнага аддзялення з уладамі ваяводства і школы. У сустрэчы ўдзельнічалі I сакратар ВК партыі А. Лашэвіч, сакратар ВК У. Юшкевіч, віцэ-куратар школьнай акругі С. Роман, кіраўніцтва школы і 65 выпускнікоў, былых студэнтаў, а цяпер паланістаў — гісторыкаў і русістаў. Частка маладых спецыялістаў будзе вучыцца далей у магістэрскай студыі педагагічнага аддзялення Варшаўскага універсітэта, рэшта выпускнікоў папоўніць настаўніцкія кадры на Беласточчыне.

### ПАЧАЛОСЯ ГАРЦЭРСКАЕ ЛЕТА

У першую нядзелю ліпеня ў гарцэрскім лагеры ля вёскі Стачы Элцкага павета адбылося ўрачыстае адкрыццё лагернага сезона ў нашым ваяводстве. У лагеры, які рыхтуе гарцэрскія кадры для правядзення акцыі нялагернага лета, адбыліся сустрэчы моладзі і інструктараў гарцэрства з прыбыўшымі на адкрыццё сезона гасцямі — I сакратаром ВК А. Лашэвічам, намеснікам начальніка Саюза польскіх гарцэраў Ул. Сaранам, старшынёй ВК ФАН С. Юхніцкім, намеснікам старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровічам і іншымі.

Госці знаёміліся з формамі лагерных заняткаў, а моладзь засыпала гасцей рознымі пытаннямі. Адказваючы на пытанні, А. Лашэвіч расказваў аб перспектывах развіцця Беласточчыны.

### УЗНАГАРОДЫ НОТ

Ужо чацверты раз у нашым ваяводстве прызнаюцца штогадовыя ўзнагароды Галоўнай тэхнічнай арганізацыі (НОТ) за найлепшае дасягненне ў галіне тэхнікі за мінулы год. Сёлета першую калектыўную ўзнагароду атрымала група медыкаў і інжынераў за апарат, вельмі патрэбны ў хірургіі пры лячэнні псіхічнахворых. Другая калектыўная ўзнагарода прызнана групе інжынераў за прапановы ў мадэрнізацыі працэсу фарбавання тканін.

### УСТУПНЫЯ ЭКЗАМЕНЫ

У першай дэкадзе ліпеня адбываліся ўступныя экзамены ў трох вышэйшых навучальных установах Беласточчыны. Медыцынская акадэмія падрыхтавала для паступаючых 250 месц на двух аддзяленнях. Вышэйшая інжынерская школа прапануе напрамкі — будаўніцтва, электрыку і механіку. Філіял Варшаўскага універсітэта на свае чатыры факультэты прыме 450 студэнтаў. (яч)




**Niedziela, 11 lipca**

8.35 Program dnia. 8.40 „Przypominamy, radzimy". 9.00 „Na białym szlaku" — film fab. pol. 10.15 „Ocalič od zapomnienia". 10.45 „Bogumił Kobiela" („W starym kinie"). 12.15 Program dnia. 12.20 Dziennik. 12.35 „Przemiany". 13.05 „100 milionów lat w piaskach Gobi" — film Tele-Aru. 13.35 „Filharmonia Poznańska". 14.20 Estrada Poetycka: „Stworzenie morza". 15.25 „W obiektywie". 15.50 „Wielka gra". 17.00 Mistrzostwa Świata w jeździe parami na żużlu. W przerwie: PKF. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Ambasadora Mongolskiej Republiki Ludowej. 20.15 Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 1971. Koncert laureatów nagrodzonych piosenek i wykonawców. 22.35 Magazyn Sportowy. Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Poniedziałek, 12 lipca**

16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Opowieści o zwierzętach" — film. 17.30 „Echo stadionu". 18.00 „Świat wiedeńskich dachów" — film austr. 18.30 „Z notatnika Irackiego" — film dok. iracki. 18.50 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Zakrzewski — „Porwanie". 21.25 „Szukam kuzyna" — program rozr. franc. 21.50 Dziennik. 22.05 Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Wtorek, 13 lipca**

10.00 „Marsylianka" — film fab. franc. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Czas budowy". 17.30 „Walcząca satyra" — film pol. 17.45 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Marsylianka" — film fab. franc. 22.10 „Oko świadka" — rep. film. („Profile kultury"). 22.40 Dziennik.

**Środa, 14 lipca**

8.15 Matematyka w szkole: „Relacje porządkujące". 9.05 Matematyka w szkole: „Funkcje" cz. I. 10.00 „Randall i duch Hopkirka" — film ang. odc. V. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Teleferie". 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Światowid". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Trybuna Obywatelska. 21.30 PKF. 21.40 „Randall i duch Hopkirka" — film ang. odc. V. 22.30 Dziennik.

**Czwartek, 15. lipca**

8.15 Matematyka w szkole: „Funkcje" cz. II. 9.05 Matematyka w szkole: „Funkcje" cz. III. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Film. 18.25 TV Kurier Lubelski. 18.40 „Poligon". 19.10 „Przypominamy," radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Kobra: Olive Chase i Stanley Clayton — „Nieznany sprawca". 21.30 „Randez vous z Terpsychorą". 22.15 „Refleksje". 22.45 Dziennik. 23.00 Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Piątek, 16 lipca**

10.00 „Nigdy nie kłamie" — film fab. węg. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.50 „Kino Filmów Animowanych". 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.35 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Nowe piosenki radzieckie". 20.35 „Kraj". 21.15 Teatr Telewizji na świecie: Molier — „Don Juan" — widowisko TV Francuskiej. 23.00 Dziennik. 23.15 Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Sobota, 17 lipca**

10.00 „Kolonia Lanfieri" — film fab. czechosłowacko-radz. (Katowice) 11.20 Przerwa. 14.35 Program dnia. 14.40 Program tygodnia. 15.10 „Oferty" (lok.). 15.25 TV Kurs Rolniczy: „Lato 1971". 16.00 II Międzynarodowy Turniej Siatkówki mężczyzn o Puchar Przewodniczącego Prezydium St. Rady Narodowej i Puchar 50-lecia „Przeglądu Sportowego": Polska — Stany Zjednoczone. W przerwie: Dziennik TV. 18.00 Magazyn ITP. 18.15 „Helikon" — program rozr. radz. 18.55 „Spotkania z przyrodą". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Kolonia Lanfieri" — film fab. czechosł.-radz. (Katowice). 21.45 Dziennik TV. 22.00 Wiadomości sportowe. 22.15 „Osaka — show" — program rozr. hiszp.




**Piątek, 9 lipca**

8.05 Nowiny. 8.15 Film animowany dla dzieci. 8.45 Film fab. 10.00 Tęcza. 10.30 Pięciolatka. 10.45 Nowiny. 14.45 Program dnia. 14.50 Nowiny. 15.00 Koncert. 15.30 Świat socjalizmu. 16.00 Czyn. 16.30 Spotkanie z Jaszynem. 17.00 Miasta i ludzie. 17.30 Program sportowy. 19.15 Czas. 19.45 Bajka dla dorosłych. 20.45 Zapraszamy na wieczornicę. 21.15 Mistrzostwa świata w szermierce. 21.45 Nowiny.

**Sobota, 10 lipca**

9.00 Koncert. 10.00 Przegląd międzynarodowy. 10.15 Szkatułka muzyczna. 10.30 Spektakl dla dzieci. 11.30 Pięciolatka. 12.05 Film animowany dla dzieci. 12.15 Człowiek. 12.30 Wystawa sztuki mongolskiej. 13.00 Film fab. 14.15 Trybuna pisarza. 14.35 W świecie zwierząt. 16.00 Nowiny. 16.05 Na spartakiadach republik związkowych. 16.20 Poszukiwania. 17.00 Spektakl TV. 18.25 Spotkanie z L. Rusłanową. 19.00 Czas. 19.30 Saga rodu Forsytów. 21.05 Na V spartakiadzie narodów ZSRR. 21.45 Nowiny.

**Niedziela, 11 lipca**

8.30 Kiosk muzyczny. 9.00 Program z Machczakalina. 10.00 Dla dzieci. 11.00 Pejzaże G. Niskiego. 11.30 Dla żołnierzy. Koncert orkiestry wojskowej. 12.00 TV filmy fab. 12.50 Zdrowie. 13.30 Miasto wsi. 14.15 Twórczość R. Gamzatowa. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 18.10 Film fab. 17.30 Piłka nożna. „Spartak" (Moskwa) — „Torpedo" (Moskwa). 19.15 Czas. 19.45 Koncert. 21.25 Mistrzostwa świata w szermierce. 21.50 Nowiny.

# НЕЗАБЫЎНАЕ ЎРАЖАННЕ













Ішлі многія з нас на канцэрт Народнага ансамбля песні і танца «Нёман» (а было гэта 23 чэрвеня) з вялікім зацікаўленнем: нас заўсёды цікавяць гастролі гродзенцаў, нашых суседзяў і братоў.

І вось празвінелі званкі, і адкрываецца занавес сцэны. Апладысментамі вітаюць прысутныя ансамбль, які быў у прыгожых нацыянальных уборах. З прывітальным словам выступае кіраўнік аддзела культуры Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку Здзіслаў Дамброўскі.

І распачаўся канцэрт. Ужо пасля выканання першага нумара праграмы, вакальна-харэаграфічнай кампазіцыі пад загалоўкам «Беларусь, мая кветка», гледачы адчулі высокі, проста прафесіянальны мастацкі ўзровень ансамбля, зладжанасць усіх яго звенняў у адзіны мастацкі арганізм. Далейшыя нумары праграмы цалкавіта запалонілі прысутных, якія захапляліся ўсімі самадзейнымі артыстамі: салістамі, харавымі групамі, танцорамі, музыкантамі, дэкламатарамі. Кожнае выступленне ўзнагароджвалася бурнымі воплескамі, кожны нумар праграмы быў дасканалы, а ўжо вакальна - харэаграфічныя кампазіцыі «Сонца яснае нам свеціць» і «Мяцеліца» проста цудоўныя.

Надзвычай моцнае ўражанне выклікае танцавальная група ансамбля. Выкананыя ёю вельмі складаныя ў тэхнічных і мастацкіх адносінах творы: беларускі народны танец «Лявоніха», малдаўскі народы танец «Марунцыка», рускія народныя танцы «Кацюша» і «Сібірскія пацехі», — напэўна ўсіх пераканалі ў таленавітасці гэтых людзей, у іх любві да мастацкай самадзейнасці.

Неабходна падкрэсліць і тое, што ўся праграма нёманцаў гучала шчыра і абаяльна, што ёсць у ёй яркі нацыянальны каларыт з дасканалым мастацкім афармленнем. Адчуваецца, што мастацкі кіраўнік і дырыжор Народнага ансамбля «Нёман», заслужаны дзеяч культуры БССР Адам Чопчыц, заслужаны дзеяч культуры БССР балейтмайстар Ларыса Ляшэнка, хормайстар Г. Стрыха і канцэртмайстар — Ул. Рыбакоў і М. Жаранкоў улажылі розум, душу і сэрца, каб праграма, з якою прыехалі яны на Беласточчыну, выявіла высокае мастацтва выканаўцаў і каб пакінула незабыўнае ўражанне.

* ❊ *

Коратка аб гісторыі ансамбля. Заснаваўся летам 1957 года пад кіраўніцтвам П. Радаліцкага і Л. Ляшэнкі. Ужо праз некалькі месяцаў, у кастрычніку, калектыў гэты выступаў на Беласточчыне.

Ад 1960 года мастацкім кіраўніком ансамбля па сёння з'яўляецца І. Чопчыц.

З кожным годам мастацкі ўзровень калектыву павышаўся.

Восенню 1961 года ансамблю песні і танца «Нёман» было прысвоена высокае званне «народны», а на Другой дэкадзе самадзейнага мастацтва БССР калектыў за сваю праграму і яе выкананне быў узнагароджаны дыпломам першай ступені. У лютым і сакавіку 1964 года «Нёман» выступае на сцэне Крамлёўскага тэатра ў Маскве.

У 1967 годзе Гродзенскі народны ансамбль песні і танца прымае ўдзел у юбілейным фестывалі ў Маскве ў дні XXIII з'езда КПСС.

Наступнай творчай вехай у жыцці нёманцаў з'явілася праграма да святкавання 50-годдзя Беларускай ССР і Камуністычнай партыі Беларусі.

Высокім гонарам для ансамбля быў яго ўдзел у спецыяльным канцэрце для ўдзельнікаў юбілейнай сесіі Вярхоўнага Савета БССР і пленума ЦК КПБ, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.

Народны ансамбль «Нёман» налічвае зараз 120 чалавек. Самадзейнікі гэтыя працуюць на розных прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях Гродна.

*Міхась Хмялеўскі*

*Фота Цаф — Р. Сянько*






# ПЕРЫЯД ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

### ФРАНЦІШАК СКАРЫНА — ЧАСТКА II

Пасля атрымання ступені доктара медыцынскіх навук Скарына вярнуўся на Беларусь. Некаторыя з даследчыкаў выказваюць думку, што, страціўшы за мяжой усе фінансавыя сродкі, быў ён прымушаны вяртацца пяшком. Мяркуюць, што затрымоўваўся ён у заходнееўрапейскіх сталіцах, знаёмячыся грунтоўна з кнігадрукаваннем, якое ў гэты перыяд было шырока вядомым многім народам. Пасля немца Гутэнберга, які вынайшоў друк у 1450 годзе. кнігадрукаванне прыйшло ў Італію (1464), у Чэхію (1468), у Францыю (1470), у Англію (1471).

Досыць рана паявілася друкарства таксама ў Польшчы. Мела яно тут перш за ўсё рэлігійны, каталіцкі характар. У Кракаве аднак існавала ад 1491 года выдавецтва немца Швайпольта Феоля, які выдаў некалькі рэлігійных кніг на стараславянскай мове, прызначаных для праваслаўных украінцаў і беларусаў. Дзейнасць Феоля працягвалася аднак нядоўга. Каталіцкая рэакцыя прыступіла да атакі. Феоль быў арыштаваны і пасаджаны ў астрог. Вышаўшы з яго, пакінуў Польшчу і выехаў у Венгрыю. Такім чынам, беларускія, украінскія і рускія землі заставаліся ў далейшым без друкаванай кніжкі. Кнігі рукапісныя былі, зразумела, рэдкай з'явай. Працэс іх стварання працягваўся часта дзесяткі гадоў. Зразумела, што ў такой сітуацыі кніга была прадметам дарагім і недаступным. Пры рукапісным спосабе прадукцыі кнігі не магло быць гутаркі аб хуткім пашырэнні культуры і асветы ў народзе. Скарына, несумненна, аб гэтым добра ведаў. Быў ён пераканаў, што Беларусь павінна пайсці тымі ж шляхамі, што і заходняя Еўропа. Таму, нягледзячы на сваю медыцынскую адукацыю, пастанавіў не лячыць, але друкаваць. Для гэтага былі неабходныя грашовыя сродкі. Скарына ўмеў іх знайсці. Пераканаў ён багатых віленскіх гаражан Бабіча і Онькова аб патрэбе развіцця беларускага кнігадрукавання. Атрымаў сродкі і мог прыступіць да наладжвання друкарні. І тады ўзнікла праблема лакалізацыі друкарні. Вільня, Полацк, Кракаў, ці нейкі іншы горад? Аднак тагачасная Беларусь была цалкам пазбаўлена тэхнічнай друкарскай базы, не было ў ёй спецыялістаў-друкароў, не вялася шырэйшая вытворчасць паперы. У такіх абставінах нельга было пачынаць друкарскага мерапрыемства. Трэба было шукаць іншай краіны. Кракаў быў небяспечны. Адкуль было вядома, што не сустрэне Скарыну такі ж самы лёс, які сустрэў Феоля? І Скарына выбраў чэшскую Прагу. Праўда, у Чэхіі пасля разгрому гусітаў панавала нямецкае засілле, аднак, нягледзячы на гэта, быў гэта горад свабодалюбівых ідэй і адносных палітычных свабод. Апрача гэтага, у Чэхіі былі добра наладжаныя друкарні і знаходзілася на высокім узроўні вытворчасць паперы. І так, выбар быў зроблены. Скарына паехаў у Прагу. Калі паехаў, дакладна не ведаем. Так ці інакш, у 1517 годзе друкарскія станкі Скарыны запрацавалі. У жніўні 1517 года выдаў Скарына кнігу «Псалтыр», якая была перакладзена на старславянскую мову. У тым жа годзе выдаў ён дзве далейшыя кнігі святога пісьма «Іоў», «Прычты цара Саламона» і «Ісус Сірахаў» на старабеларускай мове. Найбольш плённымі былі два наступныя гады, на працягу якіх выпусціў Скарына наступныя кнігі Біблії і «Эклезіяст», «Прамудрасць цара Саламона», «Песня песень», чатыры кнігі «Царстваў», «Ісус Навін», «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другазаконне», «Эсфір», «Руф», «Плач Іярэма», «Юдзіф», «Кніга прарока Данілы».

Цяжка гаварыць, што ўсе гэтыя кнігі асабіста пераклаў Скарына, відаць, меў ён супрацоўнікаў. З другога аднак боку, калі прымем, што займаўся ён перакладамі ад моманту прыезду з-за мяжы (1512), дык зусім магчыма, што ўсе пераклады выйшлі з-пад яго пяра.

Усе кнігі Скарыны багата ілюстраваны. Графічны бок яго выдавецтваў адпавядаў найвышэйшым магчымасцям тагачаснага друкарскага мастацтва.

У 1519 годзе спыняецца друкарская дзейнасць Скарыны ў Празе. Пачынаецца новы этап у жыцці гэтага дзеяча і вучонага.




Ужо гатовы план супрацьпажарнай аховы Бельскага павета на 1971—1975 гады.

Прадбачваецца арганізаванне толькі чатырох новых пажарных адзінак: у Леўках, Катлах, Страблі і Храбалах. Такім чынам, у 1975 годзе ў павеце будзе іх 82. Плануецца, што ў апошнім годзе пяцігодкі будуць 22 пажарныя каманды з адным або двума самаходамі.

Вялікая ўвага будзе звернута на пабудову супрацьпажарных сажалак. Да канца 1975 года будзе пабудавана іх 64, а 4 будуць вычышчаны і гэтым самым дапасаваны да супрацьпажарных патрэб. Праца пры пабудове сажалак будзе весціся ў асноўным грамадскім чынам, зразумела, пры дапамозе грамадскага фонду і грашовай дапамогі ПЗУ. Зараз сітуацыя ў павеце выглядае так, што 127 мясцовасцей мае дастатковую колькасць вады для патрэб пажарнікаў, 74 мясцовасці адчуваюць недахоп вады, а 27 мясцовасцей абсалютна пазбаўлена вады для тушэння пажару.

Для спраўнай працы пажарнікаў неабходна добрая сувязь. Ужо многія мясцовасці маюць тэлефоны. Аднак частка з іх мае тэлефоннае спалучэнне толькі ў акрэсленых гадзінах. Таму плануецца павялічыць колькасць пажарных адзінак, якія б мелі тэлефоннае спалучэнне на працягу цэлых сутак. Асабліва гэта датычыць такіх мясцовасцей, як Секлюкі, Кнаразы, Глліннік і Райск.

Прадугледжваецца пабудаваць 10 раміз у такіх мясцовасцях, як Стрыкі, Маліннікі, Кнарыды, Тапчэва, Рудка, Секлюкі, Пасынкі, Грыгораўцы, Кнаразы і Глліннік. Выкананне гэтага плана забяспечвае 3.800 тыс. зл., прыдзеленых павятовай радай, 1.100 тыс. зл. з грамадскіх рад і 2.500 зл. прызначае ПЗУ.

Апрача вышэй указаных напрамкаў працы, запланавана дасягнуць максімум у вучобе начальнікаў раёнаў, начальнікаў адзінак, камандзіраў секцый, радавых пажарнікаў, абслугі маторных прылад, кантралюючых калектываў і іншых. (ак)

# ГАСПАДАР ЛЕСУ

Лес — велізарнае багацце дзяржавы. Ён упрыгожвае краявід, ачышчае паветра, стварае дасканалыя ўмовы для адпачынку, стаецца родным домам для шматлікай звярыны.

Уявім сабе на хвіліну, што па лесе ходзіць чалавек са стрэльбай на плячах, ходзіць і сочыць, каб не нішчылі лесу людзі, ходзіць і вышукоўвае сухія дрэвы, якія перашкаджаюць расці здаровым. І гэтым чалавекам у раёне Шымак і Юшковага Груда з'яўляецца ляснічы Мікалай Бура, ураджэнец вёскі Бахуры, што ў Беластоцкім павеце. У Бахурах ён правёў дзяцінства і пасля службы ў войску вярнуўся дамоў ды перакваліфікаваўся да новай прафесіі, прафесіі лясніча лясніцтва Луплянка.

На пасадзе лясніча працуе ён ужо 11 год. Тут здабыў ён аўтарытэт і пашану сярод аднавяскоўцаў, сярод знаёмых жыхароў суседніх вёсак, сярод сваіх калег па прафесіі, якія выбралі яго сакратаром партыйнай арганізацыі пры надлясніцтве Геранімава.

У сваёй мясцовасці вядомы ён як грамадскі дзеяч. Ён старшыня мясцовага камітэта Фронту адзінства народу, намеснік старшыні рады спулдзельчай у Міхалове член павятовага праўлення Польскага Чырвонага крыжа, дзеяч ОРМО і яшчэ актыўны член некаторых іншых арганізацый. Мікалай Бура са сваімі трыма гаёвымі апякуецца больш як 1.400 га лесу. Лес у гэтай мясцовасці славіцца вялікімі ўраджаямі ягад і грыбоў, а асабліва плісок, якія вывозяцца на экспарт у іншыя



краіны. Гэтак сама выглядае справа і з ягадамі.

З Луплянскага лясніцтва шмат дастаўляецца смалы. Цягнецца яе з 5750 жывічных нарэзаў і згодна з планам у год атрымаць яе трэба 9116 кг. План гэты, відавочна, будзе перавыкананы. Аб гэтым сведчыць той факт, што ў маі месяцы план быў перавыкананы на 104 кг, а ў чэрвені дабудзецца смалы, напэўна, яшчэ больш, бо пануюць спрыяльныя атмасферычныя ўмовы.

Лес багацее ў звярыну. 11 год таму назад налічвалася тут 7 коз, а цяпер іх больш 30-ці. Дзікіх свіней не было зусім, а зараз іх каля 15, а ўжо зайцаў столькі, што нельга акрэсліць іх колькасці.

Павелічэнне колькасці дзікай звярыны ў лесе звязана з дакормліваннем яе зімою, а таксама належным змаганнем з браканьерамі. А калі б з лясніцтвам супрацоўнічаў паляўнічы гурток з Юхноўца, які мае тут свой тэрэн, калі б супольна быў апрацаваны план у напрамку пашырэння гадоўлі дзікай звярыны і аховы месцаў адстрэлаў, гэта ў значнай меры прычынілася б да больш рацыянальнага выкарыстання ляснога багацця.

У гэтых мясцовасцях многія сяляне маюць свае прыватныя лясы. Варта адзначыць тое, што Луплянскае лясніцтва займаецца скупкай драўніны ад прыватных гаспадароў і плаціць за яе даволі высокія цэны за кубаметр.

Лясніччы Мікалай Бура спатыкаецца ў сваёй працы і з многімі цяжкасцямі. Да такой даволі важнай справы належыць тое, што некаторыя прадпрыемствы, а перш за ўсё прадпрыемства драўніннай прамысловасці ў Гайнаўцы (тартак), нерэгулярна адбіраюць драўніну, што яны не прытрымоўваюцца плана і таму ляжыць ужо некалькі месяцаў тры тысячы кубаметраў зрэзанага сасновага лесу.

У сярэднім кожны месяц у лесе працуе 100 чалавек. І ў сувязі з тым, што плоцяць рабочым толькі 4,40 зл за гадзіну, існуюць цяжкасці з павелічэннем колькасці рабочых.

Але нягледзячы на цяжкасці, лясніцы Бура належна спраўляецца са сваімі абавязкамі гаспадара дзяржаўнага лесу.

*Міхась Хмялеўскі*

Пачатак на стар. 1

# ЧАЛАВЕК ПАМІРАЕ Ў АДЗІНОЦТВЕ

— А вы часта заглядаеце да яго? — пытаю.

— Я?! — са здзіўленнем ускліннула пані Ольга. — Я? А чаго ж мне старой да кавалера?! І гэта далёка ад нас, аж за вёскай. Найбольш яму дапамагае адна сям'я, яго суседзі Экананюкі. Аляксандр Экананюк уколы яму робіць, а яго жонка есці заносіць. Вось учора вазіў ён Барвеюка аж у Беласток. І Толік Барвеюк, Юзваў стрыечны брат, што жыве на хутары пад Сямяцічамі, таксама шмат яму дапамагае. Калі Юзва ляжаў у бальніцы, дык Толік забраў да сябе яго жывіну, каб не падохла ад голаду.

То пасля гэты ваш Барвеюк распавядаў па вёсцы, што яго Толік абакраў. А ён яму ўсё аддаў назад.

Сапраўды, Язэп Барвеюк і нам скардзіўся на свайго стрыечнага брата. Пісаў пра гэта ў лісце.

Мяне аднак не маёмасць цікавіць, а чалавек. Не прыехаў я ў Рагаўку ўстанаўліваць „праўду", хто каму забраў курку-чубатку, ці мяшок бульбы, або нейкага парсюка. Цікавіць мяне перш за ўсё тое, як можа дайсці да такога становішча, што чалавек памірае ў адзіноцтве, хаця навокал жывуць людзі, хаця ёсць у яго родны брат і родная сястра, ды іншыя сваякі.

Заходжу ў школу.

— Барвеюк? — звяртаецца адна з малодзенькіх настаўніц да сваёй сяброўкі. — Каторы гэта?

— Што, не чула ты? — адказвае руcая настаўніца, Барбара Клачко, якая ў вёсцы Рагаўка якраз з'яўляецца грамадскім апекуном. — Адзін такі дзівак.

— На вочы яго я ніколі не бачыла, — гаворыць першая, пані Галена Петшучак, якая ў сваю чаргу апякуецца гарцэрскай дружынай.

— Я таксама яго не бачыла, — адказвае пані Барбара, — але ад людзей чула. Гэта той, што так многа чытае, адлюдак нейкі.

Што за дзіва! Настаўніца паўтарае амаль тое самае, што чуў я ад сялянкі Ольгі, салтысіхі. Мо сапраўды Язэп Барвеюк з'яўляецца нейкім адлюдкам?

Яго сяліба знаходзіцца некалькі сотнень метраў за вёскай. Старэнькая хата прысела пад зялёнымі дрэвамі, сярод якіх вясёла свяргочуць птушкі, стаіць тут разваленая клуня і апусцелы хлеў. Разглядаюся кругом, слухаю. Неяк тут сумна і глуха, быццам няма ўжо жывой душы. Толькі адзін сабака блытаецца па панадворку. Адчыняю дзверы хаты. У нос б'е згушчанае, нясвежае паветра. Пад нагамі мяшкі штучных угнаенняў, змешаныя з гурбамі смецця. У кухні пуста і глуха, быццам бы цэлымі гадамі ніхто ў ей не жыў. Адчыняю яшчэ адны дзверы і не адразу здагадваюся, што за імі жыве чалавек. Бруд і смурод. Пачарнелыя сцены, на падлозе нейкія гаршчкі і паперы, няма дзе нагой ступіць, ні стала, ні крэсла. Толькі ў кутку жалезны ложак, а на ім, прыкрыўшыся кажухом, цьміць „спорта" ён, Язэп Барвеюк. Засушаны твар, глыбока запаўшыя вочы, рукі, бы два бадылі.

— Ці маглі б вы выйсці на панадворак? — пытаю яго.

— Не, не магу, сіл не хапае, — адказвае ён. — Вось бачыце, што са мной сталася, як я жыву.

Божа мой? Найгоршаму ворагу нават у марах ніколі не пажадаў бы я такога жыцця.

— Быў я здаровы, — расказвае ён, — гаспадарку меў, свіней гадаваў, каня і кароў трымаў. З мамай я толькі жыў. Яна доўга хварэла і вось у лістападзе 1969 года памерла. А мне 14 жніўня гэтага года споўніцца 42 гады... Дачакаю я гэтага дня? — яго вочы загарэліся слабенькім бляскам, дапытліва глядзеў на мяне. — Учора я быў у Беластоку, у доктара Бядзінскага, які рабіў мне аперацыю, дык ён мне сказаў: „Сынок, ніякая бальніца ўжо табе не паможа". А, можа, ён памыляўся, можа, нейкі іншы лекар... нейкім цудам... Як вы думаеце? Можа дапамаглі б вы мне кудысьці дастацца...

Што я думаю? Не пра ратунак думаю, а пра апошнія яго дні, думаю пра людзей, якія яго акружаюць, пра яго сваякоў. Сумныя гэта думкі.

— На вёску, калі яшчэ быў здаровы, я мала хадзіў. Мяне цікавіла што іншае. Маімі найлепшымі сябрамі былі кніжкі. Ім я прысвячаў свой свабодны час.

І сапраўды, пры яго логаве — параскіданыя розныя газеты, а ў адным кутку гэтай хаты — гурба нейкіх кніжак.

— Гэта толькі частка таго, што я меў, — паказвае ён гэтыя кніжкі. — Параскрадалі ў мяне іх. Камплект „Вялікай Савецкай Энцыклапедыі» ў мяне ўкралі, калі я быў у бальніцы. А пазней некалькі тысяч злотых таксама ўкралі.

Рукі яго пачынаюць ліхаманкава трасціся. Ён прыкурвае папяросу ад папяросы, попел і недакуркі ляцяць на пасцель, на падлогу, засланую газетамі. А пасля Язэп Барвеюк хапае ампулку з марфінам і сам сабе робіць укол.

— Учора ў Беластоку купіў я сабе шпрыц, — паясняе ён, — дык не патрабую ўжо дапамогі суседа.

Марфін супакойвае боль. Гэты ўкол быў ужо дзесятым за апошнія суткі. Яму зноў лягчэй дыхаць.

— Я хацеў вучыцца, — гаворыць ён. — Закончыў ужо 6 семестраў завочна-

# ТРЫБУНА чытачоў

## У ДУБІНАХ

Вёска Дубіны знаходзіцца 1,5 км за Гайнаўкай. Многія з жыхароў працуюць у горадзе. Таксама моладзь вучыцца ў гайнаўскіх школах. Цікава аднак, што дубінская моладзь, аб'яднаная ў гуртку Саюза вясковай моладзі, добра вядзе ў мясцовай святліцы культурна-асветную работу. Старшынёй гуртка з'яўляецца Юрчук Яўгеній, а яго памочнікамі Янкоўскі Уладзімір і Мар'я Крук. Нягледзячы на тое, што вольны час можна было б правесці ў недалёкай Гайнаўцы, моладзь з Дубін арганізуе забавы ў сваёй святліцы. Гурток ЗМВ выступаў са сваёй праграмай у вёсцы Арэшкава, у Навасадах, а таксама і ў сябе дома. Аматарскі гурток ставіў п'есу Марыі Кліменсовай — «Takie sobie kłopoty» і заняў на павятовым аглядзе першае месца.

Кіраўнік мясцовай святліцы Люба Ахрымюк актыўна памагае моладзі. Па яе ініцыятыве зроблены цікавыя сценгазеты, а таксама і дэкарацыя. Люба Ахрымюк вядзе ў святліцы таксама культурна-выхаваўчую працу з моладдзю.

Добра працуе ў Дубінах сельскагаспадарчы гурток, старшынёй якога з'яўляецца Рыгор Верамюк. Заатэхнік Галіна Ахрымюк супольна з мясцовым аграномам памагаюць сялянам, служаць фаховай парадай і інструкцыямі. Пад іх апекай дубінскія сяляне выменьвалі зярно і бульбу да пасеваў, вядуць таксама апырскванне палёў хімічнымі сродкамі.

Зацікавіўся я, што чулі маладыя людзі з Дубін аб БГКТ. Як сцвярджае Люба Ахрымюк, у Дубінах многія чытаюць «Ніву», аднак гуртка БГКТ няма. Няма таму, што ніхто не спрабаваў яго арганізаваць. А можа гайнаўскі аддзел БГКТ спрабуе арганізаваць у Дубінах гурток?

*Ваня Кірызюк*

## НЕ КУРЫЦЕ!

У крываціцкай святліцы штодзённа збіраецца на тэлевізійныя перадачы многа людзей. Трагедыяй з'яўляецца тое, што мужчыны за вечар так накураць, што дым выядае вочы і няма чым дыхаць. Курыць у святліцы вельмі не культурна. Дым перашкаджае адпачываць і глядзець тэлевізійную праграму. З-за курцоў церпяць тыя, што не кураць — а перш за ўсё дзеці, школьная моладзь і жанчыны. Курцы, не курыце ў святліцы — гэта ж таксама лепш будзе і вам.

*В. К., Крываціцы*

## ШТУЧНЫЯ ЎГНАЕННІ

Закончыўся першы сенакос. На меліяраваных лугах крываціцкія сяляне сабралі крыху менш сена, як у мінулым годзе. Справа ў тым, што вясной было замала дажджу, а таксама сяляне няроўна і не ўсе высявалі штучныя ўгнаенні. Той, хто не даў патрэбнай нормы, сабраў на 30% менш сена. Сабраўшы сена крываціцкія сяляне масава пачалі цяпер высяваць штучныя ўгнаенні.

В. К.

## НОВЫ БУДЫНАК

Нядаўна ў Дубічах Царкоўных быў аддадзены ў карыстанне новы мураваны будынак — сядзіба прэзідыума ГРН. Новы будынак красуецца ў вёсцы, мае новае абсталяванне і ўсе гарадскія выгады. Працаўнікі новага ГРН, а таксама жыхары бліжэйшых вёсак задаволены, што ўлады паклапаціліся аб сядзібе для ГРН у гэтай вёсцы.

В. Б.

## «НІВА» ПАМАГЛА

Нядаўна пісалася ў «Ніве», што ў вёсцы Плёскі другі год будуюць супрацьпажарны басейн і пабудаваць не могуць. Плёскаўскія стражакі крытыку ўзялі пад развагу і, доўга не чакаючы, узяліся за работу. Пры будове басейна працавалі цэлую апошнюю нядзелю. Можа, нарэшце, будзе ў Плёсках другі басейн.

*Чытач*

## Сардэчныя ТАЙНЫ

*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 17 год. Жыву ў вёсцы на Бельшчыне. Аднойчы, быўшы на забаве, я пазнаёмілася з хлопцам, які пражывае ў недалёкай ад нас вёсцы. Яму 20 год. Янка мне вельмі спадабаўся. Ад таго часу ён часта прыязджае да мяне дадому, да бацкоў. Ён таксама спадабаўся і маім бацькам, бо спакойны і талковы хлапец.

Нядаўна ў нас была забава, на якую прыехаў таксама Янка. Калі ўвайшоў у святліцу, я танцавала з другім хлопцам, яшчэ прыгажэйшым за Янку. Калі ўбачыў гэта Янка, адразу выйшаў з забавы. З нікім потым не гуляў, а я гуляла з гэтым другім. Ад таго выпадку не хоча нават са мной гаварыць. Пры сустрэчы я прабавала навесці з ім размову, але ён і слухаць не хацеў.

Парай, Сэрцайка, што мне рабіць, каторага з іх выбраць?

*Ніна з Бельшчыны*

*Ніна!* Пэўна, што Янку было непрыемна, бо ты нават не падумала аб тым, каб хаця прывітаць яго (а ён жа ж часта ў цябе бываў), ды наогул вяла ты сябе так, як быццам бы незнаёмая. А на дадатак, яшчэ цэлы час танцавала толькі з тым «прыгажэйшым». Праўда, у 17 год можна часта мяняць хлопцаў на «прыгажэйшага», бо і замуж зарана выходзіць, дык чаму б «трымацца» аднаго?! Але калі ён з'яўляўся тваім сябрам, дык паступіла ты брыдка. Пытаеш, каторага з іх выбраць? Здаецца мне, што ніводнага. Бо і нашто, калі лепш пагуляць штораз з іншым, з тым, хто больш падабаецца, лепш танцуе. Лепш так, па-сяброўску, бо пачуцці ж у тваім узросце (а таксама тваіх хлопцаў) вельмі нясталыя, яны вельмі часта змяняюцца. А навошта ж табе клопаты? Ці не праўда?

*Сэрцайка*

## ЛЗС У ПЛЁСКАХ

Гурток ЛЗС паўстаў у 1968 годзе на базе гуртка БГКТ і налічваў пятнаццаць членаў. Меў ён усяго адзін футбольны мяч, куплены за свае грошы. Праз год гуртком зацікавіўся павятовы аддзел ЛЗС. У 1970 годзе пад кіраўніцтвам Аліка Леанюка і пры актыўнай працы яго сяброў Іванюка, Несцярука, Смалеўскага, Антанюка і іншых пачала праводзіць трэніроўкі футбольная секцыя. Запал да футболу ў хлопцаў быў неспатыканы. Бяда: футбольнай пляцоўкі гурток не мае. Хадзілі і прасілі ў ГРН у Храбалах, прасілі солтыса з Плёскаў. Рабілі пляцоўкі на адлогах, на лясных палянках. Пішу ў множным ліку таму, што прыходзілася змяніць іх пяць разоў, таму што некаторыя гаспадары нарочна заворвалі адлогі, якія праляжалі дзесяць год, толькі таму, каб згасіць актыўнасць і любоў да спорту. А пляцоўкі хлопцы рабілі добрыя. Заўсёды былі дакладна азначаныя палі і брамкі, зробленыя як трэба. Хлопцы праводзілі многа трэніровак, ды былі гэта трэніроўкі самавукаў. Першы матч выпаў у 1970 годзе з Плюцічамі. Ведама, сілы былі няроўныя, як і ўзрост абедзвюх дружын. Аднак пройгрыш не зашкодзіў у далейшай працы гуртка. У 1971 налічвае ён 25 членаў. Былі разыграны тры матчы. Дружыну залічылі да класа С. У маі г. г. адбыўся матч з дружынай з Орлі. Госці прыступілі да ігры падхмеленыя. Трэба падумаць, чаму на гэткіх матчах няма прадстаўнікоў з павятовых улад ЛЗС-у? Напэўна, не дапусцілі б яны да такога стану рэчаў.

*Вераніка Леанюк*

*Вуліца ў Кляшчэлях. Фота: Я. Цялушэцкі*

## СТАЛА БОЛЬШ ЗБОЖЖА, БУЛЬБЫ І СЕНА

Ужо шмат год ідзе наступленне на сельскую гаспадарку. Ёй прызначаецца шмат сродкаў з той мэтай, каб зямельныя ўгоддзі радзілі больш сельскагаспадарчых культур. Гэтыя намаганні партыі і ўрада, сельскагаспадарчай службы і саміх сялян ужо далі адчувальныя вынікі. А вось некалькі прыкладаў з Сямяціцкага павета. У грамадзе Мілейчыцы ўраджай чатырох асноўных зерневых культур у 1961 годзе быў 10,2 цэнтнера з аднаго гектара. У 1970 годзе павялічыўся ён да 16,9 цэнтнера. У Клюковіцкай грамадзе за гэты ж перыяд павялічыўся ўраджай гэтых культур з 9,1 цэнтнера да 17,2 цэнтнера. Павялічыўся таксама ўраджай бульбы са 100 цэнтнераў з аднаго гектара да 200 цэнтнераў, цукровых буракоў са 180 да 300 цэнтнераў, а сена з 30 цэнтнераў з аднаго гектара да 50. (мх)

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Я падпісаў умову з суседам, у якой ён абавязаўся прадаць мне тры гектары зямлі. Я даў 5000 зл. задатку, а сусед абавязаўся ў выпадку, калі б па яго віне не дайшло да заключэння ўмовы ў натарыюса — вярнуць 10.000 зл. Натарыюс адмовіў спісання ўмовы куплі-продажу зямлі, высняючы, што закон аб падзеле гаспадарак не дазваляе ў гэткіх выпадках на пераняценне ўласнасці. Сусед звярнуў мне толькі 5000 зл. Ці можна патрабаваць ад яго далейшых 5000 зл. згодна з нашай умовай?

АДКАЗ: Умова, якую вы заключылі з суседам, аказалася немагчымай да выканання. З вашых слоў вынікае, што ані вы, ані сусед не ведалі, што ў вашых абставінах продаж зямлі недапушчальны. У гэтых выпадках умова лічыцца несапраўднай, а сусед мае абавязак звярнуць грошы, якія атрымаў, г. зн. 5000 зл., і патрабаваць далейшых 5000 зл. нельга.

## ЛЯСНЫ ТЭХНІКУМ

Нават не ўсе жыхары Белавежы (не гаворачы аб жыхарах Гайнаўкі) ведаюць аб тым, які прыгожы ў сярэдзіне будынак мясцовага ляснога тэхнікума. Вялікія кабінеты з усімі прыладамі і з сучасным абсталяваннем, прасторныя калідоры і вестыбюль, належна загаспадараны школьны пляц, — усё гэта сведчыць аб тым, што гэта свайго роду дасканалы навуковы камбінат прадукцыі высокакваліфікаваных кадраў для лясной службы. Навучалася тут у мінулым школьным годзе 240 вучняў, якім давалі спецыялістычныя веды 20 настаўнікаў. Апрача таго, лясны тэхнікум мае 300 завочных навучэнцаў. Тэхнікум меў ужо 16 выпускаў і разам налічваецца ўжо 1318 дыпламантаў. Пры тэхнікуме існуе даволі вялікі інтэрнат. (мх)

...ны на Урал і там таксама працаваў на поўную магутнасць. У гады вайны прадпрыемства не раз заваёўвала прызавыя месцы ва ўсесаюзным сацыялістычным спаборніцтве. Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР за ўзорнае выкананне заданняў урада па вытворчасці спецыяльнага ўзбраення ўзнагародзіў завод ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Ордэнамі і медалямі былі ўзнагароджаны сотні работнікаў „Кампрэсара". Галоўны канструктар быў узнагароджаны ордэнам Леніна, ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі.

Пасля вайны калектыў завода зноў асвоіў мірную прадукцыю. Сёння — гэта аснашчанае навейшым абсталяваннем прадпрыемства. Яно выпускае вуглекіслотныя, фрэонавыя, аміячныя халадзільныя кампрэсары. Усюды яны маюць вялікі попыт. Паспяхова ажыццяўляецца генеральны план рэканструкцыі завода. Разгортваецца культурна-бытавое будаўніцтва. Выраслі новыя жылыя дамы, заводскі Палац культуры, дзіцячыя ўстановы...

У мірнага завода — мірныя клопаты.

*П. Лясны*

*Купляем куранят. Фота: Я. Цялушэцкі*

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Fraulein Doktor" (jugosł.), 13—14. „Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), 15—16. „Pippi" (szwedzki), 17—18.

**Нараўка**

„Album" (polski), „Drugi tor" (NRD), 14—18.

**Нарва**

„Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), „Wielka miłość" (franc.), 14—18.

**Чыжы**

„Labirynt miłości" (radz.), „I znów z tobą" (węgierski), 14—18.

**Дубічы Царкоўныя**

„Białe słońce pustyni" (radz.), „Foto Haber" (węgierski), 14—18.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Białe słońce pustyni" (radz.), „Foto Haber" (węgierski), 14—18.

**Орля**

„Labirynt miłości" (radz.), „I znów z tobą" (węgierski), 14—18.

**Райск**

„Dziura w ziemi" (polski), „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (duński), 14—18.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Niepokoje wychowanka Torlessa" (NRF), 13—14. „Sklep z modelkami" (USA), 15—16. „Kto wierzy w bociany" (polski), 17—18.

**Янаў**

„Fraulein Doktor" (jugosł.), 14—18.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Przystanek komisariat" (węgierski), 13—14. „Testament Agi" (węgierski), 15—16. „Hrabina Cosel" (polski), 17—18.

**Мельнік**

„Panowie z kompleksami" (włoski), 13—14. „Lucia" (kubański), 15—16. „Kto wierzy w bociany" (polski), 17—18.

**Мілейчыцы**

„Poste-restante" (rumuński), 13—14. „Krwawa bajka" (jugosłowiański), 15—16. „Świeć moja gwiazdo" (radz.), 17—18.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 5.673 E-3

# АГЕНЦТВА АБС
## Тана Аба Казала паведамляе

## ◆ ШПУЛЬКА ◆

Прыехала ў ГП дэлегацыя з Орлі. Просяць: прыедзьце, хлопцы, народ занудзіўся па вас і наогул страшэнная нуда, мо развару́шыце наш актыў.

„Хлопцам" з ГП два разы паўтараць не трэба: узялі агітматэрыял, дзве кінаплёнкі (дэлегацыя запэўніла, што ў мясцовай школе ёсць адпаведны кінаапарат) і паехалі ў Орлю. І там, як гэта часта бывае, з самага пачатку атрымаўся канфуз. Апарат дык быў, але шпулькі да кінаплёнак, аказалася, былі замалыя. А народ бітком запоўніў школу: жадае мастацтва.

Той, што топіцца, хапаецца за саломінку. А тут нехта прыпомніў, што ў Орлі ёсць кіно, а ў ім — кучы гэтых шпулек. Радасць запанавала вялікая. Ёсць збаўца! Мігам паімчаўся дэлегат ад сабраных да загадчыка мясцовага кіно. Але замест шпулькі прынёс сумную вестку: — Не дае, скнара!

Вырашылі адправіць да загадчыка кіно новую дэлегацыю, больш прадстаўнічую (2 асобы).

— Пазычце адну шпульку, — просяць дэлегаты, — у вас жа іх многа, да таго — сёння яе звернем.

— Шпулек у мяне многа, але не дам ніводнай, — адказвае загадчык і пацяшае — такі я ўжо ёсць.

Прагнасць культурна правесці час у публікі гарачая і яна не здаецца: пасылае новую дэлегацыю, гэтым разам яшчэ больш прадстаўнічую (3 асобы).

Але і ўпартасць загадчыка арлянскага кіно здзіўляючая. Ён стаяў на сваім: не дам. І ніякіх гутарак. Аднак цяпер здалі нервы жонкі непарушнага прадстаўніка мясцовага кінафронту. Яна ўзяла няшчасную шпульку (шпулька аказалася дробязнай прыладай, 15 злотых, не больш) і ўласнаручна даставіла яе ў школу, каб тут у прысутнасці грамадства здаць яе пад распіску і з хваляваннем (аднак) чакаць на заканчэнне сеанса: хто іх ведае, гэтых беластоцкіх жэўжыкаў, возьмуць шпульку (мо за 15 зл.) і шукай у полі ветра.

Аднак дарэмнымі былі хваляванні: беластоцкія хлопцы не ўцяклі са шпулькай. Пасля сеанса вярнулася яна на шпулечны склад мясцовага загадчыка кіно.

Так было выратавана добрае бэзкатоўскае імя ў Орлі. А падумаць толькі, мог быць поўны правал. І каб хоць сур'ёзная прычына! А то дурная шпулька...

### ДОКАЗ

Суддзя:
— Абвінавачаны, чаму вы адмаўляецеся, што былі на месцы злачынства, калі 20 сведак пацвярджаюць, што бачылі вас там?

Абвінавачаны:
— Ваша чэсць, я магу прывесці вам сотні сведак, якія мяне там не бачылі.

# НІЎКА

Без слоў.

### Галаваломка

Гэту фігуру раздзяліце пяццю простымі лініямі на дзесяць роўных трохвугольнікаў.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

### ВЫЙСЦЕ

Імпрэсарыю — спявачцы:
— За адзін канцэрт вы запрашаеце суму, удвая большую, чым наш прэзідэнт атрымлівае у тыдзень.
— Дык чаму б вам не запрасіць яго спяваць?

### Я НЕ КРЫТЫКУЮ...

Певень паказвае курам яйка страуса і гаворыць:
— Я вас не крытыкую, але ўсё ж хачу звярнуць вашу ўвагу, шаноўныя, як працуюць за мяжой.

*Не паспелі спыніцца, як ён зноў за сваю рыбу.*

### НЕ ПАМЯТАЕ

У цырульню ўваходзіць калматы чалавек і звяртаецца да майстра:
— Пастрыжыце мяне, як у мінулы раз.
— Я той стрыжкі не памятаю, я тут працую ўсяго тры гады.

Без слоў.

Песні па заяўках

Па просьбе В. Б. з Гайнаўкі, Марыі С. з БССР з Краснасельскага пасёлка, Валкавыскага раёна, змяшчаем «Зорку Венеру».

## ЗОРКА ВЕНЕРА

*Словы М. Багдановіча*
*Музыка ў апрацоўцы: С. Палонскага*

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.
З гэтай пары я пачаў угдядацца
Ў неба начное і зорку шукаў,
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.
Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас...
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.
Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
У сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.
Глянь іншы раз на яе, — у расстанні
З ёю зліем мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

*Кансерватыўная педагогіка і сучасны адпачынак.*

### ДЗІЎНА

— Не разумею, навошта мне трэба вучыць англійскую мову.
— Але ж паўсвета гаворыць на англійскай мове.
— Дык няўжо ж гэтага мала?

### ЛОГІКІ

Старая — жабраку:
— Гэтыя штаны яшчэ зусім добрыя. Крыху падлатаць — і будуць як новыя!...
— Дык, можа, пані, я зайду за імі праз гадзінку?

### НЬЮТАН

Ньютан у час работы забываў пра ўсё на свеце, нават пра тое, што трэба есці.

Аднойчы раніцай ён зноў не прыйшоў снедаць. І жонка прынесла яму ў кабінет гаршчок з вадой і яйка. Яна ўзяла гадзіннік Ньютана, паклала яго каля яйка і сказала: „Тут ляжаць гадзіннік і яйка. Яйка вары тры мінуты!"

І выйшла.

Праз некаторы час яна зноў прыйшла ў пакой.

Ньютан сядзеў за сталом. Перад ім на стале стаяў гаршчок. У левай руцэ ён трымаў кнігу, а правай — яйка. У гаршчку... варыўся яго гадзіннік.

## • ВУЗЕЛ •

Вядро з Вяроўкаю пасябравалі.
І дружбы іх, здавалася, не разальеш вадой:
Паміж сабой,
Нібы галубка з голубам, пацiху буркавалі.
Ім падпяваў музыка-калаўрот.
Жылі Вядро з Вяроўкай без турбот
І без прыгод.
Але парушана была аднойчы згода.
Вядро заўважыла:
Пабыць хачу свабодным я хоць раз,
Бо звязаны з табою мы ўвесь час,
А гэта не дае мне ходу.
Сказала так і зачапілася за выступ зруба.
Вяроўка кліча:
— Чуеш, не дурэй,
Хадзі сюды скарэй!
Ці ж я табе не люба?
Разрыву нашага сабе я не дарую...
Я нашу дружбу уратую!
Мы ж так з табой дружылі, —
І пацягнула на сябе Вядро, што мела сілы.
Вядро ж ні з месца.
Тузанула яшчэ раз
І на сярэдзіне парвалася сама якраз —
Вядро ў прадонне паляцела.
— Ратуйце! — толькі закрычаць паспела.
Вядро, вядома, ўратавалі,
Калі канцы Вяроўкі той звязалі.
Але канфлікт, што паміж імі завязаўся,
Бясследным не застаўся:
Цяпер жа і Вядру той вузел замінае —
Чапляецца, ваду заўсёды разлівае.

Вось так і з дружбаю:
Калі яна парвецца,
Дык як ні звязвай — вузел застанецца.

*Уладзімір Правасуд*

# Курёзы

### ЭЛЕКТРОННЫ СВІСТОК

Як давесці да ведама шырокай публікі, якая глядзіць футбольны матч не толькі на стадыёне, але і па тэлебачанню, слухае рэпартаж па радыё, аб прынятым арбітрам рашэнні? За шумам трыбун часам нават бакавы суддзя не заўсёды рэагуе на ўказанні арбітра ў полі. Над вырашэннем гэтай праблемы доўга ламаў галаву аргенцінскі суддзя Радольфа Фантан. І, нарэшце, вынайшаў электронную сірэну, роў якой быў бы чутны ўсім: і балельшчыкам на стадыёне, і тэлегледачам, і радыёслухачам.

### ЯКІМ ВІНОМ ВАС ЧАСТАВАЛІ?

Адзін з буйнейшых фабрыкантаў віна Джанфранка Ферары апынуўся на лаве падсудных разам з многімі іншымі адказчыкамі. Для вырабу він яны выкарыстоўвалі буракі, бананы, фінікі. Каб выдаліць з іх тлушч, іх апрацоўвалі хлараформам і перакісам вадароду. У мінулым годзе ў Італіі было прыцягнута да адказнасці звыш 600 такіх „вінаробаў". Канфіскавана каля 10 мільёнаў галонаў эрзацвін. А колькі іх прададзена!...

### РЭКОРД МАК-ТЭВІША

Розныя бываюць рэкорды. Не ўсімі ганарацца іх уладальнікі. І ўжо, зразумела, прыхільнікі англійскай прафесіянальнай каманды „Манчэсцер сіці" не былі ў захапленні ад ледзь не сусветнага рэкорду абаронцы шатландца Мак-Тэвіша. У першых чатырох матчах гэтага сезона ён умудрыўся забіць тры галы ў свае вароты. Тры „мёртвыя" галы. Ніводзін з іх не змог узяць нават Банэці — лепшы варатар Англіі.

## Між намі

*Ніхто не з'яўляецца настолькі нязначным, каб не пашкодзіць другому.*